**Гродна**
№1 (530),
12 студзеня 2020

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# Адчыніце дзверы Хрысту!





*Згодна з рашэннем Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі, новы душпастырскі год у нашай краіне прысвечаны св. Яну Паўлу II. Такім чынам будзем ушаноўваць юбілей 100-годдзя нараджэння вялікага Папы, які прыйшоў у свет 18 мая 1920 года ў польскіх Вадавіцах, а таксама знаёміцца бліжэй з яго вучэннем і багатай духоўнай спадчынай, якую пасля сябе пакінуў.*

● працяг на с. 3

**“Заклік Яна Паўла II адкрыць сэрцы для Хрыста заўсёды актуальны”. Папа Францішак**

# РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

## СВЯТА ХРОСТУ ПАНА

**Мц 3, 13–17**

Езус прыйшоў з Галілеі на Іярдан да Яна, каб атрымаць ад яго хрост. Ян жа ўстрымліваў Яго, кажучы: "Гэта мне трэба ад Цябе прымаць хрост, а Ты прыходзіш да мяне?". Сказаў яму Езус у адказ: "Дазволь цяпер, бо так належыць нам выканаць усё, што справядліва". Тады Ян уступіў Яму. Калі Езус ахрысціўся, адразу выйшаў з вады, і раскрыліся Яму нябёсы, і ўбачыў Духа Божага, які спускаўся, як голуб, і сыходзіў на Яго. І голас з неба прамовіў: "Гэта Сын Мой умілаваны, якога Я ўпадабаў".

## БАЧНЫ ЗНАК НЯБАЧНАЙ ЛАСКІ

Амаль кожны ведае, калі нарадзіўся, але не многія згадваюць, калі прынялі св. хрост. З перспектывы веры і збаўлення другая дата мае больш істотнае значэнне. Праз хрост мы нараджаемся для Бога, атрымліваем Яго ласку, вызваляемся ад першароднага граху. Праз хрост далучаемся да пасхальнай містэрыі Хрыста, г. зн. да Яго таямнічага пераходу з гэтага свету ў дом Айца. Праз хрост жа становімся членамі Яго супольнасці – Касцёла.

Над Іярданам Хрыстос узяў на сябе грэх свету. Абмыўшыся вадой, Ён прыніўіў сябе як Слуга і Баранак. Езус не патрабаваў хросту навяртання, таму што з'яўляецца Богам. Ён зрабіў гэта з любові да Айца і да стварэння. Такім чынам асвячаючы абрад, устанавіў сакрамант як бачны знак нябачнай ласкі.

У свята Хросту Пана падзякуем бацькам і хросным за перадачу самага каштоўнага дару – веры. Разам з прынятым хростам пачалося наша сяброўства з Богам, які з'яўляецца Любоўю і надае жыццю сэнс.

**Ці ведаю дату свайго хросту?**

**Як клапачуся пра годнасць Божага дзіцяці ў сабе?**

## II ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Ян 1, 29–34**

Ян убачыў Езуса, які ішоў да яго, і сказаў: "Вось Ягнё Божае, якое бярэ на сябе грэх свету. Гэта той, пра якога я казаў: «Пасля мяне ідзе Муж, які апярэдзіў мяне, бо Ён быў раней за мяне. І я не ведаў Яго, але для таго прыйшоў я хрысціць вадою, каб Ён аб'явіўся Ізраэлю»". І сведчыў Ян, кажучы: "Я бачыў Духа, які сыходзіў з неба, як голуб, і спачываў на Ім. Я не ведаў Яго, але той, хто паслаў мяне хрысціць вадою, сказаў мне: «Над кім убачыш Духа, які сыходзіць і застаецца на Ім, той ёсць тым, хто хрысціць Святым Духам». І я бачыў і засведчыў, што Ён Божы Сын".

## АБРАНАСЦЬ НАРАДЖАЕ РАДАСЦЬ І ЦЯРПЕННЕ

У жыцці спазнаём штосьці, што акрэсліваецца як абранасць. Пра чалавека, які знайшоў сябе ў прафесіі, звычайна гаворым, што ён урач, настаўнік, пажарны і г. д. "па прызванні". З павагай і захапленнем назіраем за ўсімі тымі людзьмі, якія выдатна рэалізуюць сваё пакліканне – выконваюць даручаныя ім задачы з любоўю і адданасцю.

Герой сённяшняга Евангелля – Ян Хрысціцель – дасканала ўсведамляе сваё пакліканне: павінен падрыхтаваць тагачасных людзей, каб адкрылі ў асобе Езуса Месію. Заклікае іх да навяртання, хрысцячы вадой. Ведае, што за ім прыйдзе Хрыстос, які будзе хрысціць моцай Святога Духа, даючы поўнае прабачэнне грахоў. Прарок рэалізуе сваю місію старанна і мужна. Не ўпадае ў роспач, калі трапляе ў вязніцу, не паддаецца страху, калі аказваецца пад пагрозай смерці.

Кожны чалавек пакліканы Панам, каб выканаць пэўную задачу, якая павінна прывесці яго да святасці. І не важна, грамадская гэта функцыя ці асабістая, "у цішыні дома". Важна адкрыць Божую волю і рэалізоўваць яе як уласным жыцці. Толькі такія паводзіны прыносяць сапраўдную радасць. Аднак памятайма, што абранасць неадноўчы з'яўляецца таксама цярпеннем. Будзьма гатовыя па прыкладзе Яна Хрысціцеля пераносіць іх годна і аддана.

**Ці адкрыў я сваё пакліканне?**

**Як рэалізую Божую волю ў штодзённым жыцці?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Натхняцца стылем жыцця вялікага Папы

*У Божае імя мы распачалі новы год Панскі. Як людзі веры ўвайшлі ў невядомую рэчаіснасць з надзеяй і даверам, маючы святое перакананне, што Усемагутны заўсёды пра нас клапоціцца і ні на хвіліну не пакідае.*

2020 год у Касцёле ў Беларусі прысвечаны св. Яну Паўлу ІІ. Такім чынам прагнем ушанаваць юбілей 100-годдзя з дня нараджэння гэтага вялікага Папы, які ў 1991 годзе заснаваў Гродзенскую дыяцэзію і прызначыў яе першага біскупа. Дэвізам года абраны словы, прамоўленыя Святым Айцом у першы дзень яго пантыфікату: "Адчыніце дзверы Хрысту".

У гэты дадзены Богам час асаблівым чынам хочам натхняцца думкамі і жыццём слыннага Папы. Варта браць з яго прыклад, выбудоўваючы свае адносіны са Стварыцелем і іншым чалавекам, з грамадствам, у якім жывём і працуем, а таксама з Касцёлам. Сужэнцы адкрыюць скарбніцу ведаў у навучанні Святога Айца пра сям'ю. Святароў і кансэкраваных асоб прыцягне ўзор яго празрыстага жыцця і бескарыслівай паслугі. Прадстаўнікі сферы навукі і культуры ўбачаць, як гарманічна спалучаць веру і розум у пошуках праўды. Моладзь будзе матывавана, каб ставіць сабе ў жыцці высокія ідэалы і нястомна да іх імкнуцца. Палітыкі навучацца шырока глядзець на грамадскія справы, каб бескарысліва клапаціцца пра супольнае дабро... Усе мы можам натхніцца святасцю Яна Паўла ІІ!

Кожны чалавек атрымаў у дар ад Пана непаўторны шлях служэння і адказнасці. Ад нас залежыць, якім чынам "вылепліваем" аблічча гэтай зямлі, акружаючых супольнасцей і асяроддзяў. Гаворка не ідзе пра бяздумнае капіраванне слоў і ўчынкаў святога Папы, але пра творчае натхненне прыкладам яго жыцця. Св. Ян Павел ІІ мог спалучаць справы Бога са справамі людзей. Прымаў кожнага чалавека, не выключаў нікога. Не засяроджваўся на тым, што раздзяляе, але шукаў таго, што яднае, бо ўсе мы з'яўляемся Божымі дзецьмі.

**Дарагія Чытачы!**

***Нашым абавязкам і адначасова прывілеяй з'яўляецца перадача спадчыны св. Яна Паўла ІІ наступным пакаленням. Але для гэтага трэба спачатку пазнаёміцца з ім і прышчапіць у сваёй свядомасці, штодзённай паставе, паслузе. У якасці духоўнай падтрымкі давайце прымем словы Бога, скіраваныя Маісею: "Няхай бласлаўляе цябе Пан і аберагае цябе! Няхай Пан распраменіць сваё аблічча над табою і адорыць цябе ласкай. Няхай Пан скірuе на цябе свой погляд і адорыць цябе мірам" (Ліч 6, 24–26).***

# ЖЫЦЬ ЕВАНГЕЛЛЕМ

# ПЕРШЫ СІНОД ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Апытальнік на падставе прац камісій І Сінода Гродзенскай дыяцэзіі

### Падкамісія па справах абвяшчэння Божага слова

1. У Вашай парафіі рэгулярна прамаўляецца казанне падчас нядзельнай св. Імшы?
2. Ці існуе звычай прамаўлення казання падчас штодзённай св. Імшы? Ці ёсць у Вас і сярод знаёмых вернікаў духоўная патрэба слухаць казанне падчас кожнай св. Імшы?
3. Ці прамаўляюцца ў Вашай парафіі катэхізмовыя казанні, якія тлумачаць Катэхізіс Каталіцкага Касцёла?
4. Якія тэмы закранаюць святары падчас казанняў?
5. Якія тэмы хвалююць Вас больш за ўсё? Якія тэмы хацелася б, каб былі закрануты і раскрыты ў казаннях?
6. Як ацэньваеце ўзровень падрыхтоўкі святароў да казанняў (выдатны / добры / дастатковы / недастатковы)?
7. Ці адпаведна, на Вашу думку, мясцовым Касцёлам (святарамі, свецкімі вернікамі) сення для абвяшчэння Евангелля выкарыстоўваюцца сродкі масавай інфармацыі і інтэрнэт?
8. Як лічыце, якія намаганні трэба прыкласці, каб больш плённа абвяшчаць Божае слова падчас св. Імшы і нелітургічных цырымоній?

### Камісія па справах кансэкраванага жыцця

1. Як разумееце значэнне выразу "кансэкраванае жыццё"?
2. Якія ведаеце формы кансэкраванага жыцця?
3. Якую дзейнасць у Вашай парафіі праводзяць кансэкраваныя асобы?
4. Ці лічыце заўважнай і дастатковай дзейнасць манаскіх супольнасцей у сваёй парафіі і на тэрыторыі дыяцэзіі?
5. Што можаце прапанаваць для большай дасведчанасці вернікаў аб кансэкраваным жыцці?

### Камісія па справах спадчыны Гродзенскага Касцёла і сакральнага будаўніцтва

1. Што разумееце пад паняццем "спадчына Касцёла"?
2. Якія напрамкі дзейнасці па захаванні спадчыны Касцёла лічыце галоўнымі?
3. Ці дастатковыя, на Вашу думку, імкненні і дзейнасць мясцовага Касцёла па захаванні сваёй спадчыны?
4. Як мяркуеце, ці адпаведна падрыхтаваны святары і свецкія вернікі да дзейнасці па захаванні спадчыны мясцовага Касцёла?
5. Як заахвоціць святароў і вернікаў да захавання спадчыны Касцёла?

### Камісія па справах душпастырства моладзі

1. Як разумееце словы папы Францішка, прамоўленыя на XXXVI Сусветных днях моладзі ў Панаме: "Моладзь – гэта не будучыня Касцёла, але яго «сёння»"?
2. Назавіце ўзрост людзей, якіх можна лічыць маладымі.
3. Якія напрамкі душпастырскай дзейнасці з моладдзю арганізаваны ў Вашай парафіі?
4. Ці бачыце недахоп душпастырскай апекі над моладдзю ў сваёй супольнасці? Калі так, то абазначце прычыны.
5. Ці заўважаеце бар'ер у душпастырскай дзейнасці з моладдзю ў віртуальнай прасторы (сацыяльных сетках)?
6. Як, на Вашу думку, можна найлепей выкарыстоўваць віртуальную прастору (сацыяльныя сеткі і інш.) для евангелізацыі моладзі?
7. Якім чынам, на Ваш погляд, сення можна найбольш хутка і эфектыўна дастукацца да моладзі, заахвоціць яе да актыўнага ўдзелу ў жыцці мясцовага і паўсюднага Касцёла?
8. Якія мерапрыемствы для моладзі Вы хацелі б, каб Касцёл арганізоўваў у дыяцэзіях, дэканатах, парафіях?

### Камісія па справах катэхезы і каталіцкага выхавання

1. Як разумееце выраз "каталіцкае выхаванне"? Ці павінна каталіцкае выхаванне адрозніваца ад іншых форм выхавання?
2. Ці бачыце розніцу ў паняццях "заняткі па рэлігіі" і "катэхеза"? Патлумачце.
3. У якіх формах катэхізацыі Вы калі-небудзь удзельнічалі (парафіяльная, школьная, падрыхтоўка перад прыняццем сакрамантаў і інш.)?
4. Наколькі ацэньваеце ўзровень падрыхтоўкі асобы, якая Вас катэхізавала (выдатны / добры / дастатковы / недастатковы)?
5. Ці існуе ў Вашай парафіі неабходнасць у катэхізацыі дарослых? Якія формы для гэтага можаце прапанаваць?
6. Якім чынам, на Ваш погляд, павінна адбывацца катэхізацыя дзяцей і моладзі ў сем'ях?
7. Як мяркуеце, што за адметныя якасці павінен мець катэхет, каб магчы зацікавіць сваіх вучняў і заахвоціць іх да вядзення сапраўды рэлігійнага жыцця?
8. Каму аддаеце перавагу ў каталіцкім навучанні – святарам, манаскім сёстрам або свецкім асобам? Чаму?
9. Ці лічыце ўзровень праграмы катэхізацыі вучняў школ адпаведным патрэбам сучаснасці?

***Прыняць удзел у сінадальнай працы можа кожны жадаючы. Запоўнены апытальнік неабходна даслаць у сакратарыят Сінода на паштовы адрас: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 4, Курыя, – або на электронную скрыню: synodus.grodnensis@gmail.com.***

# Адчыніце дзверы Хрысту!

● працяг са с. 1

Папскі год пройдзе пад дэвізам “Адчыніце дзверы Хрысту”. Гэтыя словы св. Ян Павел II прамовіў 22 кастрычніка 1978 года падчас св. Імшы на распачацце сваёй амаль 27-гадовай дзейнасці на Святым Прастоле. Што тычыцца значэння пантыфікату папы Яна Паўла II для нашай краіны, то менавіта ён паспрыяў адраджэнню касцёльных структур у Беларусі. З асобай Святога Айца звязана эпахальная падзея: 25 ліпеня 1989 года папа Ян Павел II прызначыў кс. Тадэвуша Кандрусевіча Апостальскім адміністратарам для католікаў у Беларусі, а восенню таго ж года ўдзяліў яму біскупскую сакру ў базіліцы св. Пятра ў Рыме (Італія). Таксама Пантыфік прызначыў першага ў гісторыі нашай краіны кардынала Казіміра Свёнтка.

13 красавіка 1991 года Святы Айцец заснаваў Гродзенскую дыяцэзію. У Буле “Qui Operam” папа адзначыў: “На вечную памяць перадаём гэтую справу, каб у Саюзе Савецкіх Рэспублік быў адноўлены Каталіцкі Касцёл для духоўнай карысці супольнасці католікаў лацінскага абраду, што пражываюць у Гродзенскай акрузе ў Рэспубліцы Беларусь як частцы Федэрацыйнай дзяржавы, і выдаём Апостальскі ліст...”.

Адначасова з Булай аб заснаванні Гродзенскай дыяцэзіі 13 красавіка 1991 года Святы Айцец Ян Павел II падпісаў таксама Булу аб абранні і абвяшчэнні “ўлюбёнага сына Аляксандра Кашкевіча з духавенства Віленскай архідыяцэзіі, пробашча парафіі Святога Духа ў Вільні, Біскупам Гродзенскім Лацінскім”. Катэдрай дыяцэзіяльнага біскупа і “маці касцёлаў” дыяцэзіі стаў касцёл св. Францішка Ксаверыя.

Вялікі Пантыфік вельмі любіў Беларусь і заўсёды памятаў у сваіх малітвах пра наш Касцёл, з цеплынёю вітаў яго іерархаў у Ватыкане падчас розных сустрэч і мерапрыемстваў, а таксама перадаваў сваё пастырскае бласлаўленне вернікам. Так, звяртаючыся да беларускіх біскупаў, якія прыбылі ў Ватыкан з візітам ad limina Apostolorum у 2003 годзе, Святы Айцец сказаў: “Даручаю ўсіх апецы Найсвяцейшай Панны Марыі. Прашу Яе быць заступніцай для вас, вялебныя і любыя браты, і вашых бліжэйшых памочнікаў – святароў, манахаў і манахінь, семінарыстаў і свецкіх асоб, якія актыўна займаюцца апостальскай дзейнасцю, і ўсёй каталіцкай грамады, што жыве ў Беларусі. Няхай на ўсіх і на кожнага распастрэ Яна разам са святымі Заступнікамі вашай зямлі, сваю матчыну апеку. А я запэўніваю вас у штодзённай малітве і бласлаўляю ўсім сэрцам”.

У традыцыйных пасланнях “urbi et orbi” на Божае Нараджэнне і Вялікдзень папа Ян Павел II першым з Пантыфікаў прамовіў па-беларуску. На вялікі жаль, не мелі такога шчасця, каб прывітаць яго на сваёй зямлі, але нам усё роўна ёсць за што дзякаваць Богу і праслаўляць Яго веліч праз асобу св. Яна Паўла II. Сёння вялікі Папа дапамагае вернікам на дарозе да дасканаласці і святасці праз сваё заступніцтва і пакінутую спадчыну, вучыць гарэць Божым святлом і любоўю, да якой усе разам і пакліканы.

**Святы Айцец Ян Павел II увёў Кодэкс кананічнага права, абвясціў абноўлены Катэхізіс Каталіцкага Касцёла, правёў 120 замежных падарожжаў, наведаў 129 краін, беатыфікаваў 1343 і кананізаваў 482 асобы, выдаў 14 энцыклік і 15 апостальскіх адгартацый, 11 апостальскіх канстытуцый і 45 апостальскіх пасланняў, тысячы папскіх лістоў, апублікаваў 3 кнігі.**
**Па працягласці свайго пантыфікату папа Ян Павел II саступае толькі апосталу Пятру і папе Пію IX (1846–1878).**

## Гродзенская дыяцэзія з пашанай да св. Яна Паўла II



*У 2012 годзе ў Смаргоні паўстала новая парфія, якой быў нададзены тытул св. Яна Паўла II. Яна стала першай у Беларусі, заснаванай пад такім тытулам. У 2017 годзе ў мікрараёне Пагараны ў Гродне атрымала дзяржаўную рэгістрацыю другая па ліку ў Гродзенскай дыяцэзіі парафія св. Яна Паўла II. Такім чынам было вырашана выказаць удзячнасць Богу за слыннага паляка, якога вельмі шануюць і любяць на тутэйшых землях.*



*У 2015 годзе біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч асвяціў капліцу св. Яна Паўла II у шпіталі ў Міхалішках (дэканат Астравец). Яна была ўзведзена дзякуючы старанням мясцовага пробашча кс. Анатолія Захарэўскага і прыхільнасці адміністрацыі шпіталя. У капліцы захоўваецца Найсвяцейшы Сакрамант. Па суботах цэлебруецца св. Імша. Такім чынам, пацыенты маюць магчымасць маліцца ў святыні і прымаць удзел у Эўхарыстыі.*



*У 2007 годзе пры парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля ў Гродне паўстаў тэатр, які носіць імя св. Яна Паўла II. І хоць на той момант Папа яшчэ не быў абвешчаны святым, яго словы, навучанне і прыклад давалі ўдзельнікам імпульс для развіцця і рэалізацыі творчых планаў. Тэатр быў часткай жыцця Святога Айца. Ён у свой час сам быў і акторам, і рэжысёрам, і сцэнарыстам, і паэтам, таму добра ведаў і разумеў значэнне працы людзей, пакліканых Богам у мастацтва.*



*З 2005 года ў Гродзенскай дыяцэзіі праходзіць футбольны турнір памяці св. Яна Паўла II. Святы Айцец быў аматарам футбола. Любоў Папы да спорту адлюстравалася ва ўсім яго пантыфікаце. Ні адзін іншы рымскі біскуп не прысвяціў столькі ўвагі фізічнай культуры, як Ян Павел II. Ён быў першым Папам, які сядзеў на трыбуне стадыёна ў якасці балельшчыка. Пантыфік заклікаў выкарыстоўваць спорт для папулярызацыі такіх маральных каштоўнасцей як сумленнасць, сяброўства і салідарнасць.*



*27 красавіка 2014 года, у дзень, калі Касцёл афіцыйна абвясціў Яна Паўла II святым, у гродзенскім касцёле св. Францішка Ксаверыя была адкрыта і асвечана 2-метровая фігура Папы. Яна была выканана скульптарам Васілём Мартынчуком, які працаваў разам з сынам Арсеніем на працягу 5-ці месяцаў. Усталяванне фігуры св. Яна Паўла II у гродзенскай святыні з'яўляецца, перш за ўсё, выразам удзячнасці вялікаму Папе, які імкнуўся дайсці да сэрца і розуму кожнага чалавека, навяртаў на правільны шлях і яднаў усіх людзей.*

*Яшчэ адну фігуру св. Яна Паўла II у папскім уборы з узнятай для бласлаўлення рукой можна ўбачыць на цэнтральнай плошчы Іўя, дзе ўсталяваны памятны знак у гонар дружбы і адзінства рэлігій. Ён уяўляе сабой 4 велічныя стэлы з аркамі, прысвечаныя католікам, праваслаўным, мусульманам і іудзеям. Помнікі святому пастаўлены таксама ў Васілішках і Войстаме.*



*У некаторых парафіях святы Пантыфік прысутны ў рэліквіях – кроплях крыві на матэрыяле, што змешчаны ў адмысловых рэліквырыях. Яны захоўваюцца ў дыяцэзіяльных санктуарыях Маці Божай Каралевы Нашых Сем'яў у Тракелях (дэканат Радунь) і Маці Божай Шкаплернай у Гудагаі (дэканат Астравец), у касцёлах Узвышэння Святога Крыжа ў Макараўцах (дэканат Вялікая Бераставіца), Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў Зарачанцы (дэканат Сапоцкін), Яна Хрысціцеля ў Воўпе (дэканат Масты), у гродзенскіх касцёлах св. Францішка Ксаверыя, Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі, Святога Духа, Найсвяцейшага Адкупіцеля, а таксама ў капліцы Гродзенскай абласной клінічнай бальніцы. Наяўнасць рэліквій Папы ў парафіі вернікі лічаць вялікай ласкай.*




*У 10-ую гадавіну заснавання Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне была адкрыта актавая зала ім. Яна Паўла II. Яна з'яўляецца самым вялікім памяшканнем у семінарыі, дзе праходзяць шматлікія асветніцкія, адукацыйныя і культурныя мерапрыемствы.*

*У гонар Папы Рымскага названы вуліцы ў Макараўцах і Сапоцкіне. Такім чынам мясцовыя вернікі ўшанавалі памяць пра вялікага Пантыфіка. У многіх касцёлах змешчаны памятныя дошкі, як напамін аб пантыфікаце папы Яна Паўла II, а таксама абразы з яго выявай.*

*Святы Айцец далікатна стаў спадарожнікам нашай паўсядзённасці: калі ўглядаемся ў яго аблічча, у чарговы раз задумваемся, ці адкрыта наша жыццё на навучанне св. Яна Паўла II.*

*Кінга Красіцкая*

## Слова для жыцця

### Папа Францішак



*Евангелле Хрыста – гэта не казка, не міф, не павучальная гісторыя. Евангелле Хрыста – гэта поўнае аб'яўленне Божага плана для чалавека і свету. Гэта і простая, і цудоўная вестка, якая прымушае спытаць сябе: які канкрэтны план уклаў Пан у мяне, пастаянна абнаўляючы сваё нараджэнне сярод нас?*

*Апостал Павел дае адказ: “(Бог) выбраў нас (...), каб мы былі святымі і беззаганнымі перад Ім у любові” (Эф 1, 4). У гэтым сэнс Божага Нараджэння. Калі Пан пастаянна прыходзіць у людское асяроддзе, калі ўвесь час дае дар свайго Слова, значыць, кожны можа адказаць на заклік стаць святым у любові. Святасць – гэта прыналежнасць Богу, зносіны з Ім, празрыстасць Яго бясконцай дабрыні. Святасць ахоўвае дар, які нам даў Бог. Таму кожны, хто ўспрымае святасць як дар ласкі, не можа не ўвасобіць яе ў канкрэтнае дзеянне ў паўсядзённым жыцці. І гэтая любоў, міласэрнасць да бліжняга, якая з'яўляецца адлюстраваннем любові Бога, адначасова ачышчае сэрца і дазваляе прабачаць, робячы нас дзень за днём “беззаганнымі”.*

*Фрагмент прамовы перад малітвай “Анёл Панскі” ў Ватыкане, 05.01.2020*

### Кс. бп Аляксандр Кашкевіч



*Стаенка выразна вучыць, што мы не можам паддацца зману багацця і розным мімалётным абяцанням шчасця. [...] Новароджаны Хрыстос жадае, каб мы сталі бліжэй адзін да аднаго і бліжэй да Яго. Таму будзем набліжацца да Яго не толькі сёння, а пастаянна: праз глыбокую веру і любоў, у малітве і працы, у радасці і цярпенні. Будзем яднацца з Ім у Імшы і св. Камуніі. Будзем бліжэй адзін да аднаго не толькі за вігілійным сталом і падчас узаемных віншаванняў, а заўсёды.*

*Фрагмент казання падчас Пастэркі ў гродзенскай катэдры, 24.12.2019*

### Кс. бп Юзаф Станеўскі



*Хрыстос нарадзіўся – Бог аб'явіўся! У горадзе Давіда нарадзіўся нам Збаўца Пан! Вандруем верай і думкай менавіта туды, дзе Бог уваходзіць у гісторыю чалавека: становіцца нашым братам, нарадзіўшыся з Панны Марыі. Аб гэтым сведчаць пастушкі і Тры Каралі, якія першымі прывіталі Дзіцятка Езуса ў бэтлеемскіх яслях. Прывіталі, бо разпазналі ў Ім Месію, якога народ, абраны Панам Богам, чакаў стагоддзямі. І вось гэты момант, сустрэча чалавека са сваім Створцам... Вось момант, калі ў абдымках любові чалавек яднаецца з Богам. Ён дазваляе сябе прытуліць, каб больш не чуліся самотнымі і пакінутымі.*

*Фрагмент віншаванняў на святы Божага Нараджэння і Новага 2020 года*



◆ Біскупы Аўстраліі просяць вернікаў аб малітве ў сувязі з пажарамі, якія працягваюцца на кантыненце з верасня мінулага года. Знішчаны тэрыторыі 4-ох штатаў. Загінулі 25 чалавек і каля паўмільярда жывёл. Катаклізмы з'яўляюцца следствам засухі, ад якой пакутавалі аўстралійскія землі на працягу многіх месяцаў. Касцёл падтрымлівае пацярпелых і людзей, якія ўдзельнічаюць у барацьбе са смяротнай стыхіяй. У малітве і дапамозе задзейнічаны таксама і прадстаўнікі іншых хрысціянскіх супольнасцей.

◆ Наступная Еўрапейская сустрэча моладзі, арганізаваная экуменічнай супольнасцю Тэзэ, адбудзецца з 28 снежня 2020 года па 1 студзеня 2021 года ў Турыне (Італія). Пра гэта паведаміў брат Алаіз Лозэр падчас сёлетняй сустрэчы ў Вроцлаве (Польшча). Між іншым, прыёр супольнасці Тэзэ ўзгадаў пра наступны этап Пілігрымкі даверу – візіт з моладдзю ў Святую Зямлю ў лютым 2021 года, каб выказаць салідарнасць з людзьмі, якія імкнуцца да міру на Блізкім Усходзе.

◆ Канферэнцыя Біскупаў Бразіліі запускае анлайн-кампанію з мэтай абароны правоў работнікаў турыстычнага сектара. Гаворка ідзе пра 7 мільёнаў асоб, якія працуюць у сферы адпачынку, у тым ліку пра вадзіцеляў, перакладчыкаў, прыбіральшчыкаў, пакаёвак. Галоўным лозунгам медыя-акцыі з'яўляецца заклік: "Падчас адпускных падарожжаў звярніце ўвагу на тых, хто стаў нябачным". Гэта адна з некалькіх ініцыятыў, распачатых у апошнія гады іерархіяй, што служаць як павышэнню павагі да супрацоўнікаў турыстычнай сферы, так і евангелізацыі.

◆ Паводле ватыканскага місійнага агенцтва "Fides", на працягу 2019 года ў розных частках свету загінулі 29 місіянераў. Сярод забітых – 18 святароў, сталы дыякан, 2 манахі, 2 манахіні і 6 свецкіх вернікаў. У каментарыі да сумнай статыстыкі гаворыцца пра існаванне пэўнага роду "глабалізацыі насілля". Калі раней падобныя эпізоды здараліся ў адной краіне ці адным геаграфічным абшары, то зараз гэтая з'ява стала паўсюднай. Выпадкі забойстваў каталіцкіх місіянераў мелі месца ў 10-ці краінах Афрыкі, 8-мі краінах Амерыкі, па 1-ым выпадку ў Азіі і Еўропе.

◆ Адной з самых папулярных калядак на відэахостынгу Youtube.com з'яўляецца "Mary, Did You Know?" ("Марыя, ці Ты ведала?") у выкананні гурта "Pentatonix" (больш за 218 мільёнаў праглядаў). Штогод калектыў выпускае новыя каверы вядомых калядных хітоў, якія захапляюць слухачоў і запэўніваюць "Pentatonix" першыя месцы ў хіт-парадах. Найбольш папулярнымі сучаснымі калядкамі ў іх выкананні з'яўляюцца таксама творы "Little Drummer Boy" ("Маленькі барабаншчык" – 217 мільёнаў) і "Carol of the Bells" ("Калядка званочкаў" – 147 мільёнаў).

*vaticannews.va; credo.pro; ekai.pl*

# Усведамляючы атрыманую ласку

***З першых дзён жыцця Касцёл дае кожнаму магчымасць праз сакрамант хросту стаць членам яго супольнасці. Карыстаючыся гэтым правам, бацькі нясуць немаўлят у святыні. Разам з тым, здараюцца выпадкі, калі чалавек па незалежных ад яго абставінах прымае хрост будучы ўжо дарослай асабой. Такім чынам, у адрозненні ад нованароджанага ён цалкам усведамляе, што адбываецца падчас хрышчэння, і можа захаваць у памяці перажыванні гэтага ўзнёслага моманту – "афіцыйнага" прыйсця Хрыста ў яго сэрца. Пра шлях да рашэння пахрысціцца, уражанні падчас прыняцця хросту і тое, як сакрамант паўплываў на далейшае жыццё, распавядае новы член вялікай сям'і Касцёла Станіслаў Дзянісаў.***

## БОГ ДЗЕЙНІЧАЕ ЗНЯНАЦКУ

Сакрамант хросту я прыняў, маючы амаль 30 гадоў. Як вядома, Хрыстос у гэтым узросце ўжо актыўна прапаведаваў, а я толькі даведаўся пра Яго. Гледзячы з перспектывы часу, разумею, што з'яўленне ў маім жыцці Езуса – гэта не вынік чарады здарэнняў, але цалкам Божая воля.

Я нарадзіўся ў няверуючай сям'і. Сярод нас быў толькі адзін ахрышчаны чалавек. Ад астатніх ён адрозніваўся толькі тым, што насіў крыжык на залатым ланцужку. Таму прыкладу веры я не бачыў, і маім духоўным выхаваннем ніхто не займаўся. Пераломным момантам стаў будзённы выпадак.

Нейк мне давялося працаваць на будоўлі з адным руплівым пратэстантам. Не сакрэт, што ад будаўнікоў можна часам пачуць шмат праклёнаў, што ляцяць у бок адзін аднаго – вымагае спецыфіка прафесіі. Чуючы гэта, ён гаварыў, што калі не навярнуцца, можна трапіць у пекла. Хоць я лічыў таварыша рэлігійным фанатыкам, ягоныя словы мяне чамусьці зачапілі. Жахлівы сэнс пасылу гэтага чалавека стаў штуршком, які прымусіў пачаць думаць пра Бога. А што, калі Ён ёсць?..

## КАРОТКІМ ШЛЯХАМ ДА АЙЦА

Ува мне нарадзілася нечаканае жаданне пахрысціцца. Хоць цяпер як гэта зрабіць. Найперш накіраваўся ў адзін з гродзенскіх касцёлаў па месцы пражывання. Аднак застаць там святара было складана: чалавек разрываўся паміж дзвюма парафіямі. У выніку апынуўся ў айцоў францысканцаў.

Адзін з іх пачаў рыхтаваць мяне да прыняцця сакраманту хросту: распавядаў пра таямніцы веры, знаёміў з асновамі хрысціянскага жыцця. Ён жа знайшоў хросных бацькоў, бо самому мне складана было абраць кагосьці са свайго атачэння. Пазнаёміліся мы за 15 хвілін да цырымоніі – я ледзь запомніў іх імёны. Гэта было маладое сужэнства. Яшчэ, памятаю, падумаў: унікальны выпадак атрымаецца, бацькі малодшыя за сына.

Тое, што мы не ведалі адзін аднаго і мелі пэўную розніцу ва ўзросце, не перашкодзіла ў далейшых зносінах. Хросныя прывялі мяне на евангелізацыйны курс, дзе бліжэй пазнаў Бога і радасць быцця побач з Ім. Яны і надалей заўсёды гатовыя дапамагчы і падказаць, калі гэта неабходна. Адказная хросныя – вялікая справа. Дзякуй Богу за іх!

## ВЫГАДНАЯ ЗДЗЕЛКА

Перад прыняццем хросту я меў звычайныя разважаў пра тое, на што гэта будзе падобна. І ў мяне ўзнікла трывалая асацыяцыя – дагавор. Я нібы збіраўся падпісаць дамову з Богам, сведчачы, што разумею свае правы і абавязкі і абяцаю іх прытрымлівацца.



Праз хрост Езус нараджаецца ў сэрцы кожнага чалавека

Чарговай думкай было тое, што пасля прыняцця сакраманту хросту былое жыццё застанецца ў мінулым, а пачнецца новае. На той момант я ўжо ведаў, як павінна выглядаць штодзённасць хрысціяніна, і збіраўся да яе імкнуцца. Не схлушу, калі скажу, што ўжо стоячы адказваючы на пытанне святара, ці адракаюся ад зла, адчуваў, як перараджаюся.

Сёння магу сцвердзіць: пасля адкрыцця сэрца на Хрыста я сапраўды змяніўся. З'явілася жаданне быць карысным людзям. Я знайшоў асяроддзе, дзе адшукаў самога сябе. Большасць вольнага часу праводжу ў пабрыгіцкім касцёле. Наведваю тэматычныя сустрэчы (напрыклад, біблійныя), рэалізую свае музычныя і будаўнічыя навыкі, удзельнічаю ў дабрачынных акцыях. Галоўнае – усё, што цяпер раблю, прыносіць мне вялікае задавальненне.

Калі першапачаткова я нават не ведаў дарогі ў касцёл, то цяпер штодзённа імкнуся туды. Не ўяўляю свайго жыцця без святыні, вернікаў і малітвы. Разам з тым, разумею, што стаю толькі на пачатку шляху і мне яшчэ шмат давядзецца спазнаць. Спадзяюся, што з Божай дапамогай стану прыкладам для такіх людзей, сярод якіх сам быў раней.



Станіслаў служыць міністрантам у пабрыгіцкім касцёле

разумею гэта інакш: Бог захацеў, каб я прыйшоў да Яго. Пачаў цікавіцца перажыванні чалавека, які рыхтуецца да чагосьці новага і важнага ў сваім жыцці.

*Ангеліна Марцішэўская*

# Каментарый святара

**Для таго, каб прыняць хрост, спачатку кандыдат павінен выказаць сваё жаданне стаць хрысціянінам. Звычайна гэта адбываецца ў індывідуальнай размове з душпастырам. Пры хросце дзіцяці такое жаданне выказваюць бацькі.**

**Пры ўдзяленні хросту дзіцём лічыцца асоба да заканчэння 7-га года жыцця. Калі дзіця мае больш за 7 гадоў, яно павінна быць ахрышчана як дарослы чалавек (кан. 852 §1, кан. 97 ККП).**

**Зразумела, што перад удзяленнем сакраманту мусіць адбывацца адпаведная падрыхтоўка (сустрэчы са святаром). Гэта датычыць як таго, хто прымае хрост (калі ён дарослы), так і бацькоў, хросных. Хросныя выбіраюцца кандыдатам да хрышчэння, яго бацькамі або тымі, хто іх замяняе, у выключных выпадках – пробашчам. Акрамя таго, яны павінны быць здольнымі да гэтага і мець намер выканаць дадзены абавязак.**

**Што да хросту дарослых, то ад самага пачатку існавання Касцёла практыкуецца даволі працяглы час катэхуменату – асаблівай падрыхтоўкі да прыняцця сакраментаў хрысціянскага ўтаямнічання: хросту, канфірмацыі і Эўхарыстыі. Гэта вельмі важны перыяд у жыцці чалавека, які павінен адпаведным чынам падрыхтавацца да прыняцця вялікага Божага дару. Падчас катэхуменату вернікі наведваюць катэхезу, на якой абмяркоўваюцца як дактрынальныя пытанні, так і сутнасць рэлігійных практык. Катэхумены даведваюцца пра асноўныя праўды хрысціянскай веры, Біблію, запаведзі, гісторыю збаўлення, структуру і сэнс св. Імшы.**

**Варта таксама адзначыць, што Касцёл ніколі не адмаўляе ў хросце асобам, якім пагражае смерць. Але патрабуе ад іх раскрыцця намеру прыняць сакрамант і абяцання, што будуць дзейнічаць у адпаведнасці з загадамі хрысціянства (кан. 865 ККП). У сітуацыях пагрозы жыццю не ставіцца пытанне аб абавязку катэхуменату.**

**Мы ведаем, што пры хросце адпускаюцца ўсе грахі, і чалавеку не трэба спавядацца. Аднак ён ужо павінен умець абуджаць жаль за свае грахі. Рэкамендуецца, каб новаахрышчаныя, калі ёсць такая магчымасць, атрымалі сакрамант канфірмацыі і першую св. Камунію – ўсе сакраманты хрысціянскага ўтаямнічання.**

*Кс. Дзяніс Бразінскі*



*З Богам праз штодзённасць*

# Малітва са св. Францішкам Асізскім

Чалавек, які развівае ў сабе дух малітвы, з цягам часу адчувае ўнутраную патрэбу штосьці змяніць, знайсці лепшую форму малітвы, больш адпаведную для яго цяперашняга стану. Але такі пошук не павінен пераўтварыцца ў задавальненне ўласных амбіцый, бо не мы вызначаем час для наступнага кроку на шляху малітвы – толькі адказваем на Божае запрашэнне. Самі вобразы дарогі, узрастання, паглыблення падказваюць, што, хутчэй за ўсё, наша малітва будзе развівацца паступова, на працягу ўсяго жыцця.

Знаходзіцца "ў працэсе" – складаны выклік, трэба прызнаць, асабіста для мяне і, магчыма, для кагосьці з Вас. Хочацца атрымаць вынік ужо цяпер, а не калі-небудзь потым. Але варта прыслухвацца не толькі да сваёй нецярплівасці, але і да вопыту іншых людзей, асабліва тых, каго Касцёл абвясціў святымі і даў вернікам як прыклад для пераймання. Якое месца займала малітва ў іх жыцці? Што з іх духоўнай спадчыны мы можам запазычыць сёння?

Акрамя знаёмства з біяграфіямі святых, можна (і варта) звярнуцца да малітоўных тэкстаў, якія яны пасля сябе пакінулі. Як адзначае вядомы святар і пісьменнік Рамана Гуардзіні ў кнізе "Мастацтва малітвы", "еднасць святых – гэта, перадусім, супольнасць тых, каго яднае вера. Таму калі ўжо напісаны натхнёныя і добрыя словы, будзе правільна карыстацца імі, і тым самым быць у еднасці са святымі. <...> Мы знойдзем там скарб у спалучэннях слоў, выразаў, зваротаў, рытмаў, прыкладаў думкі, якія стварылі іншыя. І мы павінны ўвайсці ў іх і дазволіць фарміраваць нас. Тэксты могуць не толькі выказаць тое, што нам не ўдаецца, але і абудзіць думкі і пачуцці, неўсвядомленныя дагэтуль. Малітвы святых – годны даверу шлях у духоўным развіцці".

Што, калі паспрабуем "ўвайсці" ў скарбніцу малітваў св. Францішка Асізскага? І калі рашымся даць яго словам больш часу і ўвагі, ці дазволім фарміраваць нас? Св. Францішак адмовіўся ад клопату аб уласнасці і сямейных інтарэсах, каб весці сціплае жыццё, дзе пакора, любоў і радасць былі асновай існавання. Яго захапленне дробязямі, здольнасць спяваць і танцаваць, адчувальнасць да навакольнага свету прыцягвалі самых розных людзей у XIII стагоддзі. Ён сябраваў з жывёламі і бачыў усё стварэнне ў якасці сваіх братоў і сясцёр, навяртаў грэшнікаў, настаўляў, суцяшаў, прадухіляў канфлікты. Адзін брытанскі мастацка-дакументальны фільм па яго біяграфіі называецца "Знайсці св. Францішка". Так, сапраўды, варта ў сучасных умовах нанова адшукаць яго.

Св. Францішак нястомна стараўся "знайсці" для Бога кожнага чалавека, якога сустракаў на сваім шляху. Ён можа дапамагчы і нам адшукаць сябе перад Богам. "Лексікон францысканскай духоўнасці" ў раздзеле аб малітоўным досведзе св. Францішка адзначае, што ён "адчувае сябе ўмілаваным праз Бога Айца, які яго кліча, і аддаецца ў Яго параджэнне, бо хоча быць адораным яшчэ большымі ласкамі". Тут мы можам знайсці і адкрыць хіба што найгалоўнейшую праўду пра сябе: нас любіць Бог. Дакладней, як мяне, так і кожнага чалавека, і ўсё стварэнне. І як любімыя дзеці, якім Айцец дае шмат і прагне даць яшчэ больш, можам давяраць Яму дарэшты, не прывязваючыся да Божых дароў, раздаваць іх, бо Яго шчодрасць і любоў нязменныя.

З асабістага адчування гэтай умілаванасці нараджаецца ўзаемная любоў да Бога, жаданне спаўняць Яго волю і любіць іншых так, як Ён, праслаўляючы Найвышэйшага заўсёды і ў любых абставінах, нават найцяжэйшых. "Лексікон" выкарыстоўвае слова "нараджаецца" і ў дачыненні да малітвы святога: "Сапраўдная малітва нараджаецца з усведамлення Божай прысутнасці, слухання Яго і прыняцця Яго дару". Усведамляць, слухаць, прымаць – усё гаворыць аб працэсе, унутранай працы. Малітва з'яўляецца і першым крокам, і плодам выбранага ладу жыцця.

Дарэчы, сам св. Францішак маліўся няспынна, прабываючы ў "паставе адаратара, захопленага Божай таямніцай", якую ён адчуваў як прыязную блізкасць. Уявім сябе на няспыннай адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту... Часам дзеяслоў "пеража͡ыць" адносна рэлігійных практык па праўдзе азначае не "перажыць глыбока", а "перажыць як-небудзь", перацярпець. А св. Францішак у пастаянным усведамленні Божай прысутнасці радаваўся, спяваў, працаваў, гаварыў да Бога і пра Бога, жыў напоўніцу. Я гэтай заўвагай не хачу падкрэсліць дыстанцыю да святога, але яго свабоду і сапраўднае прыняцце таго, што Бог дае чалавеку, – прыняцце Яго блізкасці, Яго сяброўства.

**Прыкладам няхай будзе Малітва Панская паводле св. Францішка Асізскага.**

О, Найсвяцейшы ОЙЧА НАШ: Стварыцель, Адкупіцель, Суцяшыцель і Збаўца наш.

КАТОРЫ ЁСЦЬ У НЕБЕ: у анёлах і ў святых. Ты асвячаеш іх, каб пазнавалі Цябе, бо Ты, Пане, – Святло. Ты запальваеш у іх любоў, бо Ты, Пане, – Любоў. Ты прабываеш у іх і напаўняеш, каб ашчаслівіць, бо Ты, Пане, – найвышэйшае, вечнае Дабро, ад якога паходзіць усялякае дабро, без якога няма ніякага дабра.

СВЯЦІСЯ ІМЯ ТВАЁ: няхай заззяе ў нас пазнанне Цябе, каб пазналі шырыню дабрадзействаў Тваіх, даўжыню абяцанняў Тваіх, вышыню веліч Тваёй і глыбіню слоў Тваіх (параўн. Эф 3, 18).

ПРЫЙДЗІ ВАЛАДАРСТВА ТВАЁ: каб Ты валадарыў у нас праз ласку і прывёў у Тваё Валадарства, дзе будзем сузіраць Цябе без заслонаў, любіць дасканала і ў радасным яднанні цешыцца з Табою навекі.

БУДЗЬ ВОЛЯ ТВАЯ, ЯК У НЕБЕ, ТАК І НА ЗЯМЛІ: каб мы любілі Цябе ўсім сэрцам (параўн. Лк 10, 27), заўсёды думаючы пра Цябе, усёй душою, заўсёды сумуючы па Табе, усім розумам, скіроўваючы да Цябе нашы інтэнцыі, шукаючы ва ўсім Тваёй хвалы, і ўсімі сіламі сваімі, аддаючы свае намаганні і пачуцці душы і цела служэнню Тваёй любові, а не чамусьці іншаму; і каб любілі бліжніх сваіх так, як саміх сябе (параўн. Мц 22, 37. 39), усіх прыцягваючы да Тваёй любові, радуючыся іх дабру, як уласнаму, спачуваючы іх няшчасцю і нікому ні ў чым не даючы спатыкнуцца (параўн. 2 Кар 6, 3).

ХЛЕБА НАШАГА ШТОДЗЁННАГА, Твайго Сына ўмілаванага, Пана нашага Езуса Хрыста, ДАЙ НАМ СЁННЯ: на памяць і для разумення, і для ўшанавання любові, якою Ён нас адарыў, а таксама таго, што Ён для нас сказаў, учыніў, выцярпеў.

І АДПУСЦІ НАМ ПРАВІНЫ НАШЫ: праз Тваю невымоўную міласэрнасць, праз моц мукі ўмілаванага Сына Твайго і праз заслугі і заступніцтва Найсвяцейшай Панны і ўсіх выбраных Тваіх.

ЯК І МЫ АДПУСКАЕМ ВІНАВАТЫМ НАШЫМ: і тое, чаго не прабачаем цалкам, Ты, Пане, навучы нас цалкам прабачыць, каб дзеля Цябе па-сапраўднаму любілі непрыяцеляў і набожна маліліся за іх да Цябе, нікому не адплочваючы злом за зло (параўн. Рым 12. 17), і каб стараліся праз Цябе ўсім служыць дапамогаю.

І НЕ ЎВОДЗЬ НАС У СПАКУСУ: таемную ці яўную, раптоўную ці непераадольную.

АЛЕ ЗБАЎ НАС АД ЗЛОГА: мінулага, цяперашняга і будучага.

ХвалаАйцу і Сыну, і Святому Духу. Амэн.

*Тэрэса Клімовіч*



*Кл. Уладзіслаў Малышка,*
*алюмн 5 курса Гродзенскай ВДС*
*Паходзіць з парафіі св. Вацлава ў Ваўкавыску*

# Каб пачуць Бога, неабходна навучыцца слухаць сябе!

**Не сакрэт, што ўсе хочуць быць выслуханымі, быць патрэбнымі, мець сэнс жыцця. Але каб цябе пачулі, трэба, перадусім, слухаць самому, у першую чаргу – Бога, які прамаўляе як у сэрцы, так і праз іншых людзей.**

### ПРА ПАКЛІКАННЕ

Мабыць, упершыню я задумаўся аб сваім пакліканні, калі стаў міністрантам. Пачаў прыглядвацца да святароў, што неслі паслугу ў парафіі, і мяне гэта захапляла. Менавіта прыклад іх жыцця, а асабліва кс. пробашча Антонія Філіпчыка, натхніў мяне стаць такім жа. Стаць святаром!

З часам усур'ёз задумаўся над тым, каб прысвяціць сваё жыццё Богу і людзям. Гэтаму вельмі паспрыялі рэкалекцыі па распазнанні паклікання для юнакоў, якія ладзяцца ў гродзенскай семінарыі. Тады, як і многія аднагодкі, я не мог вызначыцца са сваімі жаданнямі і абраць штосьці адно на ўсё жыццё. У 9 класе, дарэчы, хацеў стаць настаўнікам англійскай мовы. У 10 класе разглядаў варыянт працы псіхолагам. Бачыў, як шмат сучасных людзей патрабуюць спагадлівасці і ўвагі – прагнуў ім дапамагчы. Свой выбар заўсёды супастаўляў з уласнымі здольнасцямі, магчымасцямі, карысцю, якую мог прынесці. Мне хацелася дзяліцца ведамі, быць побач з людзьмі ў цяжкасцях. У пэўны момант прыйшоў да высновы, што ўсё гэта не супярэчыць таму жыццёваму пакліканню, пра якое доўга разважаў, – святарству! Святар – гэта чалавек, які распаўсюджвае збаўчую навуку Хрыста і гатовы кожнаму дапамагчы духоўна, у тым ліку псіхалагічна.

### ПРА СЕМІНАРЫЮ

Трапляючы ў семінарыю, трапляеш у сям'ю. Як у любой сям'і, здараюцца і пазітыўныя моманты, і негатыўныя. Усё гэта вучыць нас прыстасоўвацца адзін да аднаго, выходзіць па-за межы асабістага "я". Ды і жыць прасцей, калі маеш побач старэйшых братоў. Нярэдка яны своечасова звяртаюць на штосьці тваю ўвагу, дзякуючы чаму пазбягаеш памылак, якія б маглі мець месца ў жыцці.

У семінарыйнай супольнасці разам з Богам намагаемся пазбавіцца такой заганы, як пыха. Вучымся несці цяжкасці брата, так як кожны нясе тваё.

### ПРА ТАЛЕНТЫ

Кожны з нас мае таленты. Яны дапамагаюць служыць Хрысту і Яго справам. Я, напрыклад, не ўяўляў, як магу задзейнічаць свае музычныя здольнасці, лічыў, што для рэалізацыі майго паклікання яны не спатрэбяцца. Але як жа быў здзіўлены, калі раптам прыйшоў да высновы: музыка – своеасаблівы шлях да Бога. У гурце "AVE" я зразумеў, што хрысціянская музыка – гэта нефармальны дыялог з тымі, хто баіцца быць бліжэй да Пана або баіцца аб нечым спытацца ў святара. Чалавек можа нават не мець нічога супольнага з Касцёлам, але праз любімы жанр, а пасля і праз тэкст упадабанай песні знайсці тое, чаго прагне душа.

### ДУМАЮ, ШТО...

Сёння нам не хапае адчувальнасці на іншага чалавека, бо засяроджаны галоўным чынам на сабе. Жадаю ўсім адкрытасці і ўспрымальнасці. Гэта павінна навучыць нас любіць па-сапраўднаму, як чалавека палюбіў Бог. Гэта павінна прывесці нас да святасці, да якой кожны запрошаны Стварыцелем.





### *Езуіты ў байнэце*

***Запрацаваў інтэрнэт-сайт Jezuity.by – беларускамоўны рэсурс найбольшай у Касцёле манаскай супольнасці, да якой належыць таксама папа Францішак.***

*На сайце прадстаўлена інфармацыя пра дзейнасць айцоў езуітаў, іх заснавальніка, адметныя рысы паклікання, педагогікі і духоўнасці. Акрамя новых матэрыялаў, у адным месцы цяпер сабраны пераклады і аўтарскія матэрыялы па ігнацыянскай духоўнасці са старонак іншых рэсурсаў. Вернікі Касцёла ў Беларусі і ўсе зацікаўленыя суайчыннікі могуць глыбей пазнаёміцца з гэтай духоўнасцю і ўзбагаціцца яе незлічонымі скарбамі.*





### *Абкрадзеныя шопкі?*

***Напярэдадні ўрачыстасці Трох Каралёў з 15-ці калядных шопак у нямецкіх касцёлах зніклі фігуркі Мудрацоў з Усходу.***

*Аказалася, што гэта спланавала ініцыятыўная група у межах акцыі "Выключаныя – Тры Каралі ля брам Еўропы", мэта якой – звярнуць увагу на лёс бежанцаў, што накіроўваюцца з Афрыкі і Блізкага Усходу да межаў Еўропы. На іх думку, эмігрантаў, якія знаходзяцца ў спецыяльных лагерах часовага прабывання, неабходна як мага хутчэй рассяліць у Германіі і іншых краінах Еўрасаюза.*

*У кожным касцёле актывісты пакінулі ў шопцы ліст, дзе патлумачылі сутнасць акцыі. Фігуркі былі вернуты ў касцёлы 6 студзеня.*





### *"Апранутая ў белае"*

***Пад такой назвай адкрылася выстава марыйных фігур у санктуарыі Маці Божай у Фаціме (Партугалія).***

*Нагодай для адкрыцця экспазіцыі, якую можна ўбачыць у базіліцы Найсвяцейшай Тройцы, з'яўляецца надыходзячая сотая гадавіна выканання першай фігуркі Маці Божай Фацімскай. Яна была выразана згодна з апісаннем с. Луцыі – адной з 3-ох дзяцей, якія ўдзельнічалі ў аб'яўленнях у 1917 годзе.*

*Фігуру Маці Божай Фацімскай пілігрымы могуць сузіраць не толькі ў гэтым партугальскім горадзе – яе копіі часта падарожнічаюць па свеце. У фацімскім санктуарыі ёсць больш дзесятка фігур, якія штогод высылаюцца ў розныя куткі зямнога шара.*

## Каляндар падзей

*12 студзеня*
Свята Хросту Пана. Заканчэнне перыяду Божага Нараджэння. Згодна з традыцыяй, калядкі спяваюцца да 2 лютага.

*17 студзеня*
Успамін св. Антонія, абата.

*18–25 студзеня*
Тыдзень паўсюднай малітвы аб адзінстве хрысціян. Заахвочваем маліцца аб еднасці ўсіх вызнаўцаў Хрыста.

*21 студзеня*
Успамін св. Агнешкі, панны і мучаніцы.

*24 студзеня*
Успамін св. Францішка Сальскага, біскупа і доктара Касцёла, а таксама заступніка журналістаў і каталіцкай прэсы. Сусветны дзень СМІ.

*25 студзеня*
Свята Навяртання св. апостала Паўла.

## Ружанцовыя інтэнцыі

*Студзень*
Аб святасці сем'яў. У інтэнцыі сужэнцаў, бацькоў і дзяцей, каб у сваіх сем'ях будавалі сувязі хрысціянскай любові.
Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

*"Голас Евангелля"*
Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.

*Навіны з Ватыкана па-беларуску*
Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.

*Інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі grodnensis.by*
Асвятленне падзей з жыцця Касцёла на Гродзеншчыне. Даступны фота- і відэаматэрыялы.

НАВІНЫ



## ПЕРЫЯД БОЖАГА НАРАДЖЭННЯ

За некалькі дзён да свят Божага Нараджэння скаўты ўнеслі ў катэдральны касцёл св. Францішка Ксаверыя ў Гродне Бэтлеемскі агонь міру. Адтуль у межах традыцыйнай эстафеты, якая сёлета праходзіла пад дэвізам "Святло, якое дае моц", яго перадалі далей – у гарады і вёскі дыяцэзіі.

Святкаванне адной з галоўных касцёльных урачыстасцей распачалося Пастэркай. Кс. бп Аляксандр Кашкевіч узначаліў святочную св. Імшу ў гродзенскай катэдры, а кс. бп Юзаф Станеўскі – у касцёле св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску.

У дыяцэзіі да сёння працягваюцца аплаткавыя сустрэчы. Вернікі збіраюцца разам, каб пасля супольнай малітвы падзяліцца белым хлебам і скласці адзін аднаму сардэчныя пажаданні. Гэта цудоўная нагода, каб падзякаваць, а таксама папрасіць прабачэння.

У многіх парафіях з нагоды свят былі арганізаваны калядныя прадстаўленні, канцэрты калядак, конкурсы і акцыі. У некаторых супольнасцях ладзіўся збор прадуктаў харчавання для найбольш патрабуючых.

### БІСКУПСКІЯ ВІЗІТЫ



У свята Святой Сям'і дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі ўзначаліў св. Імшу ў рэктаральным касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі ў Гродне. Падчас Эўхарыстыі сёстры назарэтанкі аднавілі манаскія абяцанні, каб далей з маладым запалам рэалізаваць харызму супольнасці: служыць сем'ям і быць для іх Божым святлом.

### ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ



Падчас зімовых канікул у будынку Гродзенскай ВДС адбыліся рэкалекцыі распазнання жыццёвага шляху. У іх прынялі ўдзел больш за 60 міністрантаў з розных куткоў дыяцэзіі. Праграма сустрэчы ўключала духоўныя практыкаванні, індывідуальныя размовы з кіраўнікамі семінарыі і разнастайныя інтэграцыйныя мерапрыемствы.

### ДАБРАЧЫННАЕ ТАВАРЫСТВА "КАРЫТАС"




"Карытас" Гродзенскай дыяцэзіі падрыхтаваў святочныя падарункі для жыхароў дома начнога прабывання для асоб без пэўнага месца жыхарства ў Гродне. На сустрэчу з людзьмі, якія апынуліся ў цяжкіх жыццёвых абставінах і не маюць даху над галавой, накіраваўся кс. бп Юзаф Станеўскі. Іерарх павіншаваў усіх жыхароў і супрацоўнікаў дома са святам Божага Нараджэння і запэўніў, што бедныя і ўбогія ніколі не застаюцца без падтрымкі Касцёла: як духоўнай, так і матэрыяльнай.



### АДНЫМ РАДКОМ

• Пробашч парафіі ў Воўпе (дэканат Масты) кс. Алег Яновіч наведаў у вігілію Божага Нараджэння пацыентаў бальніцы сястрынскага догляду. • Святочная сустрэча міністрантаў дэканата Гродна-Захад адбылася ў Квасоўцы. • Рэкалекцыі для моладзі з гродзенскай парафіі Святога Духа былі арганізаваны ў Парэччы (дэканат Гродна-Усход). • Моладзь дыяцэзіі прыняла ўдзел у сустрэчы Тэзэ ў Вроцлаве (Польшча). • 94-ты дзень нараджэння адзначыў кс. прэлат Юзаф Трубовіч, найстарэйшы святар Беларусі. • 90-гадовы юбілей адсвяткаваў кс. прэлат Ежы Левінскі, шматгадовы выкладчык Гродзенскай ВДС.

*Агляд навін падрыхтаваны на падставе інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by.***

АНОНСЫ

### КАНЦЭРТ КАЛЯДНЫХ СПЕВАЎ ЛАДЗІЦЦА Ў СМАРГОНІ

**У салезіянскім араторыі імя св. Яна Боско 18 студзеня пройдзе ўрачыстая праграма пад назвай "Мой Бэтлеем". Пачатак у 12.00.**

Арганізатары запрашаюць да ўдзелу парафіяльныя хоры, музычныя гурты, а таксама асобных выступоўцаў. Тры лепшыя нумары будуць адзначаны прызамі.

*Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць у кс. Артура Ляшнеўскага SDB па тэлефоне: (8 029) 761-70-17; e-mail: donboskovec@mail.ru.*

### XVI ФЕСТЫВАЛЬ КАЛЯДНЫХ ПЕСЕНЬ АДБУДЗЕЦЦА Ў ІЎІ

**Традыцыйнае мерапрыемства пад назвай "Gloria in excelsis Deo" пройдзе 19 студзеня ў гарадскім Доме культуры. Пачатак у 14.00.**

Перад адкрыццём фестывалю ў 11.30 у касцёле свсв. апосталаў Пятра і Паўла адбудзецца св. Імша. У конкурснай праграме выступяць дзеці і моладзь: салісты, дуэты, трыо, квартэты, ансамблі і хоры з розных парафій Іўеўскага дэканата.

*На святочны канцэрт арганізатары запрашаюць усіх жадаючых.*

### XVIII ДЭКАНАЛЬНЫ ПРАГЛЯД КАЛЯДАК І ПАСТАРАЛАК ПРОЙДЗЕ Ў САПОЦКІНЕ

**У бягучым годзе мерапрыемства, якое па традыцыі арганізоўваецца мясцовай парафіяй, адбудзецца 26 студзеня ў Доме культуры. Пачатак у 14.00.**

Каб прыняць непасрэдны ўдзел у праглядзе, неабходна да 19 студзеня паінфармаваць пробашча парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі і св. Язафата Кунцэвіча кс. Антонія Абухоўскага па тэлефоне: (8 029) 888-18-29 або (8 0152) 99-21-30.

Для запісу трэба падаць наступныя звесткі:
• імя і прозвішча выканаўцы або назву гурта ці групы;
• колькасць спевакоў;
• назвы калядак.

*Выступіць можа любы жадаючы. Узрост удзельнікаў не абмежаваны.*

### РЭКАЛЕКЦЫІ ДЛЯ ЮНАКОЎ ПРОЙДУЦЬ У ГУДАГАІ

**Духоўныя практыкаванні адбудуцца 7–9 лютага ў кляштары айцоў кармэлітаў.**

Тэма – "Не бойся сказаць Богу «так» і адчыніць дзверы свайго сэрца". Да ўдзелу запрашаюцца хлопцы ад 14-ці гадоў, якія жадаюць паразважаць над жыццёвым пакліканнем.

*Больш дакладную інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне: (8 044) 589-68-98 – а. Аляксандр Стока OCD, адказны за пакліканні.*

### ІНФАРМАЦЫЯ ДЛЯ ВЕРНІКАЎ ПАРАФІІ БЛ. МАР'ЯНЫ БЯРНАЦКАЙ У ГРОДНЕ

**У склад парафіі, якая атрымала дзяржаўную рэгістрацыю 1 лістапада 2019 года, дэкрэтам біскупа Гродзенскага ўвайшлі вуліцы мікрараёнаў Ласосна 1, 2, 3, 4 і Баранавічы 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, а таксама колішняй в. Тарусічы ўздоўж вуліц Цэнтральная і Спутнік-Прыдарожная.**

Св. Імша для вернікаў новай парафіі будзе цэлебравацца кожную нядзелю ў 13.00. Да моманту пабудовы часовай капліцы набажэнствы будуць адпраўляцца ў касцёле Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Адамавічах.

Да ўдзелу ў Эўхарыстыі і супольным утварэнні новай парафіі ў горадзе над Нёманам – найперш будавання жывога Касцёла – усіх парафіян і людзей добрай волі сардэчна запрашае ял пробашч кс. Юрый Марціновіч.

### У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**13 студзеня 1991 г.** – кс. прэлат Пётр Барташэвіч, *проб. Жалудок;*
**15 студзеня 1991 г.** – кс. Фелікс Сарока, *проб. Адэльск;*
**17 студзеня 2003 г.** – бп Эдуард Самсэль, *праф. Гродзенскай ВДС;*
**19 студзеня 1968 г.** – кс. Мар'ян Вандалоўскі, *проб. Правыя Масты;*
**20 студзеня 1965 г.** – кс. Юзаф Навасадка, *проб. Тэалін;*
**20 студзеня 1976 г.** – кс. Стэфан Сечка, *проб. Ліпнішкі;*
**22 студзеня 1965 г.** – кс. Клеменс Лікшта, *проб. Быстрыца;*
**25 студзеня 1968 г.** – кс. Міхал Шымковіч, *проб. Ізабелін.*

# Ад шчырага сэрца

**Паважаным Ксяндзам Яну Сарэлу, Алегу Яновічу, Леону Лішыку і Віктару Мыслюку**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем добрага здароўя, нязгаснага запалу ў абвяшчэнні Божага слова, шмат радасных хвілін на кожны дзень і доўгіх гадоў жыцця, каб маглі служыць Богу і людзям. Няхай Дзіцятка Езус адорвае Вас сваімі ласкамі і благаслаўленнем, а Найсвяцейшая Маці вядзе да святасці і нястомна апекуецца.

*Члены Ружанцовага кола св. Юзафа з Воўпы*

**Паважаны Ксёндз Юрый Барташэвіч!**

З нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем, каб Вас заўсёды акружалі прамяні Божай міласэрнасці, моц Святога Духа і апека Найсвяцейшай Маці. Няхай Езус валадарыць у Вашым сэрцы і адорвае сваімі ласкамі. Дзякуем за Вашу мудрасць і дабрыню.

*Апостальства “Маргарытка” і вернікі парафіі Жырмуны*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Рудзевічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці, шматлікіх Божых ласкаў, добрых людзей побач, заўсёды гатовых дапамагчы, а таксама сіл у душпастырскай паслузе. Няхай Маці Божая стала Вамі апекуецца, а Бог адорвае благаслаўленнем.

*Вернікі з в. Старое Сяло*

**Паважаным Ксяндзам Каноніку Юзафу Багдзевічу, Раману Вайцяховічу, а таксама нашым Сёстрам**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем моцнага здароўя, радасці, сіл і стойкасці ў паслузе, спакою ў душы і сэрцы, здзяйснення ўсіх мар. Няхай нованароджаны Езус асвячае кожны Ваш дзень, а Марыя трымае ў сваёй апецы.

*Вернікі з парафіі свсв. Космы і Дам’яна ў Астраўцы*

**Паважаным Айцам Валерыю Шэйгерэвічу і Віталію Манцэвічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем Божых ласкаў, здароўя, радасці на кожны дзень. Няхай Дзіцятка Езус адорвае спакоем і міласэрнасцю ды асвячае святарскі шлях. Сардэчна дзякуем за паслугу ў нашай парафіі.

*Вернікі з касцёла св. Францішка з Асізі ў Свіслачы*

**Паважанаму Айцу Віталію Манцэвічу**

з нагоды Дня нараджэння сардэчна жадаем шчодрых Божых ласкаў. Няхай Найсвяцейшая Маці заўсёды Вамі апекуецца, Пан вядзе праз жыццё, а Святы Дух удзяляе шчодрыя дары і асвячае святарскі шлях.

*Вернікі з касцёла св. Францішка з Асізі ў Свіслачы*

**Паважанаму Ксяндзу Вячаславу Матукевічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем шчодрых Божых ласкаў і благаслаўлення ад Дзіцятка Езус. Няхай святая ноч зазззяе бляскам надыходу Караля над вякамі, увесь новы год будзе напоўнены спакоем і міласэрнасцю, а Бэтлеемская зорка асвячае святарскі шлях.

*Вернікі з парафіі Дуды*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Казлоўскаму**

з нагоды Дня нараджэння жадаем шчодрых Божых ласкаў, здароўя на доўгія гады, дароў Святога Духа, нястомнай апекі Маці Божай і Анёла-ахоўніка, стойкасці на святарскім шляху і людской дабрыні. Шчыра дзякуем за абвяшчэнне Божага слова, ахвярную працу, цярплівасць, дабрыню і веліч сэрца.

*Парафіяне з Малой Бераставіцы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Рушніцкаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем благаслаўлення ад Дзіцятка Езус, здароўя, шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Панна Марыя ахіне Вас мацярынскай любоўю і апекай, а наша малітва дадасць патрэбных сіл. Мы шчаслівыя, што Вы з намі. Дзякуем за паслугу ў парафіі, цярплівасць да нас, мудрыя павучанні, дабрыню і сціпласць, клопат пра людзей і чулае сэрца.

*Касцёльны камітэт і парафіяне з Каробчыцаў і навакольных вёсак*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Генрыху Яблоньскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем здароўя, няспыннай апекі Панны Марыі, нязгаснага запалу ў службе Богу і людзям, радасных і спакойных дзён. Мы ўдзячны Вам за добрае сэрца, абвяшчэнне Божага слова і за адкрытасць на кожнага.

*Парафіяне з Забалаці*

**Паважаным Ксяндзам Пробашчу Алегу Жураўскаму, Каноніку Здзіславу Вэдэру, Артуру Ляшнеўскаму, Сёстрам Ірыне Барцэвіч, Вераніцы Блізнюк, Валянціне Кот, Юліі Клявец**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем моцнага здароўя, штодзённай радасці, здзяйснення мар і зычлівых людзей побач. Няхай спакой, як Бэтлеемская зорка, зазззяе ў сэрцах і напоўніць іх дабрынёй, Маці Божая ахіне сваёй любоўю і апекай, а Езус благаславіць і шчодра адорыць сваімі ласкамі.

*Парафіяне са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Яўгену Барысюку**

з нагоды свят Божага Нараджэння, Новага года і Імянін жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, людской добразычлівасці. Няхай нованароджаны Божы Сын узмацняе Вас у пакліканні, а кожны дзень жыцця будзе напоўнены шчасцем і радасцю.

*Парафіяне з касцёла св. Андрэя Баболі ў в. Казловічы і рэлігійная супольнасць Святой Сям’і з Верцялішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Алегу Дулю**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем душэўнага супакою, радасці, верных людзей побач, шчодрых дароў Святога Духа і Божых ласкаў. Няхай Дзіцятка Езус благаславіць Вас на далейшыя гады паслугі, а Божая Маці вядзе найпрыгажэйшай дарогай жыцця.

*Парафіяне і Ружанцовае кола з касцёла св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску*

**Паважанаму Ксяндзу Яўгену Учкуроніcу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем шчодрых Божых ласкаў. Няхай Марыя прытуляе Вас да свайго сэрца, Святы Дух надалей вядзе па цудоўнай дарозе жыцця, а Дзіцятка Езус благаслаўляе на далейшыя гады паслугі і заўсёды будзе прыкладам бязмежнай любові і безумоўнага прабачэння.

*Суполка “Маці ў малітве” з парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Здзіславу Пікулу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем моцнага здароўя, Божага благаслаўлення, аптымізму, надзеі і веры. Няхай Бэтлеемская зорка асвячае Ваш шлях, дорыць спакой і радасць, Дзіцятка Езус апраменьвае сваім святлом, а Найсвяцейшая Маці атуляе плашчом любові. Дзякуем за служэнне ў нашай парафіі, адданую працу ў справе аднаўлення святыні, за дабрыню і павагу да нас, ветлівасць і зразуменне.

*Касцёльны камітэт і парафіяне касцёла Унебаўзяцця НПМ з Дзятлава*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Адамовічу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем моцнага здароўя, шчасця, доўгіх гадоў жыцця, зычлівых людзей побач, Божага благаслаўлення, а таксама дароў Святога Духа. Няхай Дзіцятка Езус разам з Марыяй апекуецца Вамі ў нялёгкай святарскай паслузе, а новы год прынясе радасць ласкі Пана, паколькі для Яго і людзей Вы не шкадуеце сваіх сіл. Дзякуем за Божае слова, павучальныя казанні і прыемную ўсмешку.

*Вернікі з в. Самнанішкі парафіі Нача*

**Паважаным Ксяндзам Каноніку Здзіславу Вэдэру, Пробашчу Алегу Жураўскаму і Артуру Ляшнеўскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння жадаем шчодрых ласкаў ад нованароджанага Хрыста. Як Бэтлеемская зорка асвяціла зямлю з прыходам Дзіцятка Езус, так любоў Бога Айца няхай зззяе нязгасным святлом у Вашым жыцці!

*Члены суполкі “Маці ў малітве” і апостальства “Маргарытка” са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яўгену Учкуроніcу**

з нагоды Імянін жадаем добрага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, душэўнага супакою, радасці, нязгаснага запалу ў душпастырскай працы. Няхай Панна Марыя апекуецца Вамі, Святы Дух дапамагае ў рэалізацыі планаў, Хрыстос будзе Сябрам, а служэнне Богу і людзям прыносіць радасць і шчодры плён. Дзякуем за паслугу ў нашай парафіі і цудоўны прыклад веры.

*Апостальства “Маргарытка”, Легіён Марыі і вернікі з парафіі св. Яна Паўла II у Смаргоні*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем моцнага здароўя, радасці, душэўнага супакою, цярплівасці, нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, моцы Святога Духа, шчырых і зычлівых людзей побач.

*Яна, Валерый, Вераніка*

**Паважаным Айцам Пробашчу Андрэю Агелю, Віталію Слуку, Віталію Сярко, Яну Асіповічу, Вітольду Пяцельчыцу і Аляксандру Махначу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем Божага благаслаўлення, дароў Святога Духа, апекі Маці Божай, дапамогі святых Заступнікаў, плённай працы на ніве Пана, моцнага здароўя, мудрасці і трываласці. Няхай Дзіцятка Езус асвячае Ваш святарскі шлях. Дзякуем за прыклад, набожнасць і навукі, за любоў да людзей і клопат пра святыню.

*Ружанцовае кола св. Максімільяна з касцёла св. Тэрэзы Авільскай у Шчучыне*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Ханько**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем моцнага здароўя, глыбокай веры, надзеі і любові, радасці і спакою ў сэрцы. Няхай Бэтлеемская зорка ўказвае шлях да Пана, а Езус благаслаўляе і шчодра адорвае сваімі ласкамі.

*Парафіяне з Мастоў*

**Паважаным Ксяндзам Антонію Абухоўскаму, Юрыю Свіслоцкаму, Юрыю Павайбу, Юрыю Марціновічу, Сёстрам Гарэцці, Эўхарыі, Паўле, Серафіме і Юліце**

з нагоды свят Божага Нараджэння жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці, аптымізму, моцнай веры і нязгаснай любові да Бога і бліжніх. Няхай Пан благаслаўляе Вас кожны дзень, а Найсвяцейшая Маці ахінае сваёй апекай.

*Касцёльная рада і сям’я Касцюшкаў*

**Паважаным Ксяндзам Алегу Яновічу і Яну Сарэлу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем, каб Дзіцятка Езус адорвала здароўем, сілай і спакоем, Найсвяцейшая Маці трымала ў сваёй апецы, а Бэтлеемская зорка асвячала святарскі шлях.

*Марыя Вішнеўская і Марына Скорб з парафіі Воўпа*

**Паважаныя Ксяндзы Тадэвуш Качан і Дзмітрый Сядлецкі!**

З нагоды свят Божага Нараджэння, дзякуючы за паслугу і адданасць, жадаем, каб Хрыстос узбагаціў Вашы сэрцы сваёю ласкай, адарыў здароўем і благаслаўленнем.
Хай Бог любоўю
душы напоўніць,
Святы Дух у жыцці
сваю ролю споўніць,
А Езус маленькі,
на свет народжаны,
Раскалыхае ўсе шчасця званы.

*Парафіяне з Канвелішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яцэку Маркелю**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем моцнага здароўя на доўгія гады. Няхай кожны дзень прыносіць сілы і радасць для здзяйснення паслугі, Езус адорвае патрэбнымі ласкамі, а Маці Божая нястомна апекуецца Вамі.

*Ружы Жывога Ружанца парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Зэльве*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Шанчуку**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем здароўя, поспехаў, верных людзей побач, благаслаўлення ад Дзіцятка Езус і нястомнай апекі Панны Марыі. Дзякуем за прыклад глыбокай малітвы, мудрыя і павучальныя казанні, духоўную апеку і навучанне, якое пакідае след у нашых сэрцах. Няхай Ваш шлях будзе доўгі, шчаслівы і плённы, а Усемагутны ўзнагародзіць за тое, што дапамагаеце людзям ісці праз жыццё з верай, надзеяй і любоўю.

*Парафіяне з Гожы*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Стволу**

з нагоды Дня нараджэння жадаем добрага здароўя, нястомнасці ў абвяшчэнні Евангелля, нязгаснага запалу веры і любові ў сэрцы, моцы і цярплівасці на святарскім шляху, а таксама радасці і душэўнага супакою.

*Касцёльная рада з парафіі Рэпля*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Захарэўскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, радасці, а таксама Божага благаслаўлення на кожны дзень. Дзякуем за абвяшчэнне Евангелля, цудоўны прыклад веры і мудрасці. Няхай Найсвяцейшая Маці заўсёды Вамі апекуецца. Служыце ў нашай парафіі як мага даўжэй!

*Вернікі з Дварца*

**Паважанаму Айцу Андрэю Шчупалу**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года сардэчна жадаем добрага здароўя, цярплівасці, стойкасці ў святарскай працы, шмат ласкаў ад Дзіцятка Езус і нястомнай апекі Маці Божай.

*Сям’я Заяц*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем доўгіх гадоў жыцця і зычлівых людзей на святарскім шляху. Няхай Божае Дзіця адорвае патрэбнымі ласкамі і асвячае кожны Ваш дзень.

*Сем’і Кавальчук і Скелбас з Селіванаўцаў*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Вітольду Лазавіцкаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем добрага здароўя, Божых ласкаў на доўгія гады і нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці. Няхай Бог благаслаўляе і ўзнагароджвае за Вашу дабрыню і зычлівае сэрца.

*Сям’я Пілюткевіч з Лойкаў*

**Паважаным Ксяндзам Алегу Яновічу, Яну Сарэлу і Віктару Мыслюку**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем здароўя на доўгія гады, плённай працы на Божай ніве, нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці. Няхай смутак Вас абмінае, і жыццё заўсёды плыве ў радасці.

*Вернікі з парафіі св. Яна Хрысціцеля ў Воўпе*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Захарэўскаму**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем моцнага здароўя, спакойных і ясных дзён у святарскай паслузе. Няхай Бэтлеемская зорка асвячае жыццёвы шлях, Дзіцятка Езус адорвае спакоем, Найсвяцейшая Маці апекуецца Вамі, а Святы Дух спасылае свае дары. Дзякуем за абвяшчэнне Божага слова, малітвы і клопат пра нашу святыню. Дзякуем, за тое, што Вы з намі і для нас.

*Парафіне з Раготна*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Лішко**

з нагоды свят Божага Нараджэння і Новага года жадаем моцнага здароўя, поспехаў у душпастырскай працы. Няхай Дзіцятка Езус благаслаўляе кожную хвіліну жыцця, Маці Божая аберагае ад нягод, а Бэтлеемская зорка асвячае шлях да Пана.

*Цёця Марыя з сям’ёй*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб’ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;** заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 75-64-38; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 45; тыраж 5045; аб’ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты. Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная